Збаразскаго ку замку подъ мѣсто Серазское (АВК, VII, 454, 1592). *Параўн.* обвоженье ў 1 *знач.*

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* обводити ў 3 *знач.* при томъ обводѣ и оказанью знаковъ кгрунтовъ манастырскихъ мнѣ Василію Болобану были люди добрые ... мѣщане Глинянскіе (АЗР, III, 266, 1581); Въ чомъ споръ не малый обоя сторона ... зъ собою вѣдучи домовялисе, абыхмо ихъ кождую сторону водле обводу границ зоставили (АВК, VI, 146, 1586); по томъ обводѣ свѣтковъ его милость панъ Лукашъ Копоть, застановившисе подле болота Голешова на новинѣ, повѣдилъ (АВК, VI, 157, 1597). *Параўн.* обвоженье ў 2 *знач.*

**Обвоженый** *дзеепрым. ад* обводити ў 2 *знач.* тое скаженье знаковъ есть обвожено вижы замковъ короля (АСД, I, 78, 1546).

**Обвоженье** *наз.* **1.** *Тое, што і* обводъ *у* 1 *знач.* Тыхъ Цырскихъ обвоженья вдолжъ якобы на три мили (АСД, I, 72, 1546).

**2.** *Тое, што і* обводъ *у* 2 *знач.* просилъ мене о возного на объвоженъе и выпроваженье тых подданых вышей менованых и выбитье з упокойного держанья (АВК, XXXVI, 247, 1582); просил мене тот урядникъ ей милости на объвожене и на огледане тых сеножатей о возного (Там жа, 261); которые грунты ... служебникъ его милости ... при обвоженью на тотъ часъ будучое, далъ братству церковному Виленскому святое Троицы (АВК, XI, 52, 1593).

**Обвоживанье** *наз. Сведчанне; давядзенне з дапамогай сведкаў.* месеца Июня є҃ (5) дня, за обвоживаньемъ отъ служебника пана Матея Душевского ... огледалъ есми битыхъ и раненыхъ подданыхъ села Волчи (АВК, XVIII, 138, 1596).

**Обволаный, обваланый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* обволати ў 1 *знач.* то*т* листъ маеть быти везде в томъ повете ѡбъволанъ и ѡбъголошонъ (Ст. 1588, 120); которые слова оные межи иншими ѡсобливой памѧти годни, писари історій костелны*х* с писма чере*з* его о дѣѧхъ синодовыхъ обволаного, приточаю*т* (Апакр., 53б); то по все*м* па*н*ствѣ земль твои*х* нехай буде*т* ѡбвалано (Біблія, 573); се*с* ли*ст* на*ш* ... а*к*тикованъ пȣбликованъ и ѡ*б*воланъ бы*л* (КАР, 5б, 1646); ѡбволаны*и* бы*л* в ми*р*лікіи выро*к* на ни*х* срогии жебы або бг҃о*м* поклоніли, або м҃ченіе при*и*мовали (Жыц. св., 75); ѡбвалано во Іȣдѣи и во Іерȣсалимѣ, абы каждый принеслъ пѣнѧзи гсдȣ (Хран., 332б); абы сесъ листъ нашъ баніційный вездѣ за поданьемъ его до актъ, до книгъ ... публикованъ и обволанъ былъ конечно (АВК, IX, 554, 1677).

**2.** *Ад* обволати *ў* 2 *знач.* и*ꙋ*ли*ꙗн* в галилеи на па*н*ство ри*м*ское *ѡт* жо*л*неро*в* бы*л* по*д*несе*н* и цесаро*м* ѡбволаны[s] (Бельск., 277); мстисла*в* ... коронова*н* *ѡт* влады*к* все[s] россии царе*м* ѡбволаны[s] (Стрыйк., 487б).

**Обволанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обволати *ў* 1 *знач.* третій листъ трибунальскій подъ тою жъ датою зношенья того выволанья зъ небожчика Шумского, писаный до всихъ вобецъ, зъ обволаньемъ, о томъ ознаймуючи зъ трибуналу (АВК, II, 244, 1580); где бы хто ... вѣдаючы ѡ таково*м* переводе права на противнаго и по ѡбьволаню такового декретꙋ в то*м* повѣте гдѣ ѡны*и* выволаны*и* ѡселость маетъ ѡбъцованье з нимъ мѣлъ (Трыб., 14б); часу ꙋзычаемъ *ѡт* ѡбъволаньꙗ сего листу нашого до недель дванадъцати (КЛС, 5б, 1596); што се дотычеть Курылы, ката, ижъ то пъяный, въ ночы, хотя жъ, мовитъ, боронечы се, то учынилъ есми, але одъ свядченья, албо обволаня найстя своего въ сем жадного не учынилъ (ИЮМ, VIII, 364, 1620); Възглашеніе: ѡбволанье, кричанье, ѡповѣданье (Бяр., 19); ѡ*д*ного днꙗ каза*л* ца*р* ꙋчини*т* ѡ*б*вола*н*е справи*в*шы мѣ*ст*це певное, где бы вси могли глꙗдети (Зб. 752, 79—79б); За обволане слузе Асипу, що проволалъ на място и записалъ до книгъ, дали за працу осм. десять (ИЮМ, IX, 56, 1692). *Параўн.* обоволанье.

**Обволати, обвалати, обволать** *дзеясл.* **1.** *Абвясціць, аб'явіць, абнародаваць.* господаръ домовы[s] ... скоро по ѡно*м* кгва*л*те маеть сꙋседо*м* ѡколичнымъ ѡбволати и ѡповедати (Ст. 1566 I, 84); тое выволанье съ пана Шумского знесли ... и презъ возного въ земли Волынской обволать наказали (АВК, II, 247, 1580); сесь нашъ листъ везде, где того потреба бꙋдеть ѡбъволати (Гр. 1589); посвѣдчаетъ того и декретъ, котѡрый сами дх҃ѡвные списали и обволали (Апакр., 76б); взбуди*л* гсдъ дꙋха кира царꙗ пе*р*ского: каза*л* ѡбвала*т* по все*м* ца*р*ствѣ, и на писмѣ далъ рекучи (Біблія, 602); пре*з* возные за*с* ка*н*диди*ꙗн* коме*с* *ѡт*сꙋже*н*е ѡное нестора ѡбвола*т* мꙋси*л* (Бельск., 307б); Наѡстато*к* ѡбвалати в мѣсте и по сторона*х* каза*л*, абы сꙗ х*с*а запрели (Зб. 752, 76); Кликуну Паторочи, що бы объволалъ, ходечи по вале, жебы не псовали валу и не ходили, дали ему осм. пятнадцать (ИЮМ, IX, 43, 1692). *Параўн.* оволати.

**2.** *Афіцыйна прызнаць каго-н. кім-н.* та*м* же его еп҇кпи короновали и мона*р*хою гали*ц*ки*м* ѡбволали з триꙋмфо*м* велики*м* (Стрыйк., 487б).

**3.** *Праславіць; зрабіць вядомым.* сла*в*у црствіа твое*г* вымов*ѧт*, и мо*ц* твою ѡ*б*волаю*т* (Пс. XVI, 139).

**Обволочи** *дзеясл. Акружыць, абкруціць, абвіць.* вси людие ізраилевы объволокуть градъ тои повразы, и вовлекуть и до рѣки: да не останетсѧ ни единыи камень ѡ*т* него (Скар. ДЦ, 98б).

**Обволхвовавший** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто наслаў чары (на каго-, што-н.).* ныне же мы поустѣмъ рѣки. на ѡбволхвовавшаг боги наша да рѣчными стрѹꙗми ... погибнеть хра*м* сии (Чэцця, 10б).

**Обволываный** *дзеепрым. ад* обволывати. черезъ возныхъ ѡбъволыванъ рокъ емѹ кѹ справе (Ст. 1588, 12); таковые листы маꙇють быти ѡбъволываны, в местех по то*р*гохъ при костелехъ (Там жа, 50).

**Обволывати** *дзеясл. Абвяшчаць, аб'яўляць, абнародаваць.* вси[мъ], хто войну служити повиненъ, ознаймовал[и], въ торгохъ и при костелахъ у параѳеяхъ обволывати казали, абы неведомостью нихто причины вымовы не найдовалъ (КПД, 758, 1563); хто ... зъехалъ до зе*м*ли ꙗкого суседа нашого ... тотъ кгле<sup>s</sup>тъ ... по местомъ то*р*гомъ и при костелехъ маеть давати ѡ*б*волывати (Ст. 1566, 10); възглашаю — ѡповѣдѹю, ѡбволываю (Зіз, 20); прыказѹемъ ... сесь листъ нашъ на торъгохъ пры костелехъ ѡбволывати (КЛС, 4б, 1596); тую баницію публикуючи, обволываючи ... зъ нее копіи до брамъ, костеловъ, церквей поприбіялъ есьми (АВК, VIII, 588, 1605); публице обволываемъ презъ духовного отца Сылуяна (АСД, I, 281, 1637); Народословлю: Казанѧ кажѹ, ѡбволѹю (Бяр., 88).

**Обвоняти** *дзеясл. Тое, што і* обоняти *ў* 1 *знач.* они же не видѧть ани слышать не ꙗдѧть и не обвонѧють (Скар. ДЗ, 14); что пользуеть жертва данаѧ идолови, понеже ани ести можеть ни обвонѧти (Скар. IC, 49б).

**Обвыкнути** *дзеясл. Прывыкнуць; асвоіцца з кім-, чым-н.* с тако великим и тѧжким тоутном и зимном и прегрозным тресченьемъ сл҃нце оусходи*т*. иже то*л*ко кто не ѡбвыклъ никто не може*т* стерпѣти (Валх., 54). *Параўн.* обыкнути.

**Обвязанный** *гл.* обвязаный II

**Обвязаный I** *дзеепрым. ад* обвязати I. Таковый да имать ризы розодраны главу неприкриту, ѹста платомъ обвѧзана (Скар. КЛ, 26б).

**Обвязаный II, обвезаный, обвязанный** *дзеепрым. ад* обвязати II. татаринъ ... пану земли ничого не платить, але только дворную службу есть обвезанъ служить (АСД, I, 30, 1536); я будучи справами господарскими на тотъ часъ уряду (з) моего обвязанъ и не могучи певнего выведаня ... вчинити ... зоста-

вилемъ тыхъ бояръ ... Григорю Корызновичу служыти (АВК, XXIV, 183, 1555); ани суть обвязани которых винъ платити (СДГВ, 156, 1607); тотъ святый ... ходи*л* на кажды$^{s}$ днь до црькви ... што день горꙗчаꙗ млсть в ни*м* се розжигала, а еще не ѡбвꙗза*н*наго закона [!] в законъныꙗ трꙋды и ꙋме*р*тве*н*нꙗ тѣла заправовалъсꙗ, шолъ абовѣмъ ѡ*д*ного часꙋ до кꙋзни и та*м*сꙗ железо*м* ѡкова*т* казалъ в пасѣ (Пралог, 638б); дочокъ нашихъ дати не можемо имъ, бꙋдꙋчи присѧгою и клѧтвою ѡбвѧзаны (Хран., 192).

**Обвязанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обвязати II. его королевская милость, водлѣ захованья предковъ своихъ и водлѣ описанья и обвязанья отца его милости и своего и въ томъ ласки своее вамъ отмовляти не рачитъ (АЗР, III, 4, 1547); мы ... ихъ с того ѡбъвꙗзаньꙗ вызволꙗемъ (КВС, 497б, 1552); тотъ дей Анлрей Сиркгутевичъ на ономъ року водлугъ обвязанья своего самъ не сталъ (АВК, XVII, 408, 1556); мы потомъ Рабея неоднокротъ пытали, абы онъ тые листы водлугъ объвязанья своего передъ нами положилъ (АВК, XXI, 270, 1558); мы з$^{s}$ грꙋбои невѣдомости, дѣти*н*ства, и обвѧзан$^{s}$емъ злости, ѡ*д*ворочаем$^{s}$сѧ правдивого живота (Мак., 38—39). *Параўн.* обвезенье.

**Обвязати, обвезати I** *дзеясл. Абвязаць, абматаць што-н. вакол чаго-н.* црь славы ретезь оу роуце своей држа. сотоне ѡколо шіе ѡбвѧза*л* (Пак. Хр., 29б); тые счепки баволною ѡбвѧжоу*т* (Валх., 59б); ѡбъвѧжи ꙗ около шии твоеѧ, и напиши ꙗ на дъскахъ [!] серъдца твоего (Скар. ПС, 8); Де*л*фина ... ходила в чо*р*но*м* ѡдѣ*н*ю мислꙗчи, ѡбъвезавши волосы ѡколо головы (Бельск., 191); Немашъ раны ни стрꙋпа, немашъ пꙋхлои раны, немашъ где плѧстра приложити, ни ѡлѣйкꙋ влити, албо ѡбвѧзати (Мак., 287); ѡ*т*крыти бовемъ таемницꙋ ближнѧгѡ, болшаѧ речь нижели емꙋ ранꙋ задати, и тѧжшаѧ нижели егѡ чимъ спотварити, бо обойгꙋ томꙋ, латвѡ сѧ, забѣжить. ранꙋ ѡбвѧжешъ, потварь знесешъ (Ст. бр., 7б); сты$^{s}$ ... хꙋстою ранꙋ добре ѡбвеза*в*шы пусти*л* его [лва] (Зб. 752, 585). *Параўн.* обязати I.

**Обвязати, обвезати II** *дзеясл. Абавязаць, ускласці на каго-н. якія-н. абавязкі; звязаць (клятвай, абяцаннем і пад.).* тотъ Иванъ ставши обличне у права, самъ добровольне того обвезалъ, хотечи того брата своего ... на рокъ ку праву поставити за чотыры недели (АВК, XXI, 113, 1556); коли вси ѡ*т*повѣдали немашъ его тутъ ѡбвꙗза*л* присꙗгою ка*ж*дое ца*р*ство и наро*д* длꙗ того же*с* се не нашо*л* (Біблія, 439); хотячи ... шлюбами законными в томъ же монастырѣ себе вечне объвезати,

маетность свою ... такъ роспрвую (АВК, XX, 248, 1617); ѡбвгазал его росказанемъ божиим, абы сга с працы цр̃ковнои не вымовлгал (Зб. 81, 125); еслиб мѣла мѹжа и шлюбила бѹдет што, а слово бы разъ з<sup>s</sup> ѹстъ еи вышедши дш̃ѹ еи присѧгою ѡбвѧзало, которого днѧ мѹжь бы оуслышалъ, и не спротивилсѧ шлюбѹ винна бѹдет и ѡтдастъ што колвекъ обецала (Хран., 147б). *Параўн.* обязати II.

**Обвязатися, обвезатисе, обвезатися** *дзеясл., зв. ад* обвязати II. пани Миколаевая ... объвязала ся была въси повинъности до Великого Князства съ тыхъ селъ полнити (КПД, 24, 1538); готов есми и не засмоутилсѧ встеречи приказанѧ твои, переказа грешных ѡбвѧзалас мнѣ предсѧж законѹ твоег не забыл есми (Пс. XVI, 120б); естли бъ хто у тотъ дворецъ и до того року ... хотел ся уступовати, тогды ся они обвезали пану Богушу очищати (АВК, XXI, 80, 1555); водлугъ прыреченья слова того Якова, же ся объвезалъ четьверътого дня ... зо всимъ доводомъ стать тутъ же на именью его милости пана моего (АВК, XXXVI, 250, 1582); аж бы се тежъ ѡнъ противникъ его неѡселы<sup>s</sup> тамъ поддалъ и ѡбвезалъсе листомъ своимъ и сознаньемъ перѣдъ вргадомъ емѹ в томъ гдѣ ѡ ѡднѹ речъ идеть (Ст. 1588, 191); тогды тую двадцать копъ грошей князю Асану Алеевичу объвезалсе давать вместо юркгелту за працу его (АВК, XXXI, 215, 1595); Если который мѹжь шлюбовалъ што бг̃ѹ або сѧ обвѧжет присѧгою, абы не зламалъ слова своегѡ але все што обѣцалъ выполнитъ (Хран., 147б).

**Обвязити** *дзеясл. Зняволіць, пасадзіць у цямніцу.* поневаж<sup>s</sup> силнѣйшіи над нас<sup>s</sup> сѹть, которыи нас<sup>s</sup> завели в<sup>s</sup> неволю, и обвѧзили нас<sup>s</sup> в кролевствѣ своем<sup>s</sup> (Мак., 16—17).

**Обвязка** *наз. Абвязка, павязка.* ѡбѧзало: ѡбвѧзка, фартѹх<sup>s</sup> (Бяр., 194); Діадима: ѡбвѧзка на баловѣ Кролевской, Вѣнец, корѹна. тое ж<sup>s</sup> митра (Там жа, 266).

**Обвязованый** *дзеепрым. ад* обвязовати I. [винницю] розмаитыми ѡссти и перьемъ и терниемъ розмаитыхъ блоудов и болванствъ ѡбвѧзова[ноу]ю и зарощеноую посполоу ис ст̃ым фомою апслмъ вычистили и выправили (Валх., 94).

**Обвязовати I** *дзеясл. Абвязваць, абмотваць што-н. вакол чаго-н.* Тогѡ, што было загинѹло, шѹкалъ: што было закинено, находилъ: што было поламано, ѡбвѧзовалъ (Сматр., 39); тѣнь абовѣмъ ранъ ѡбвѧзовати, ани покармѹ подати, албо мовити не может<sup>s</sup> (Мак., 297).

**Обвязовати II, обвезовати** *дзеясл. Абавязваць; ускладаць на каго-н. якія-н. абавязкі.* только Бога а речъ справедливую, в

чомъ ваше сумъненье, объвязуемъ, перед очима маючи, того межи них досмотрели (Пін., 100, 1551); тежъ ѡбъвезѹю брата моего рожоного ... абы справилъ келихъ кѹ ѡкрасе костела (КВС, 459, 1552); в чомъ верѹ и сѹмненье вашо ѡбъвезѹемъ и ѡнерѹемъ (КЛС, 53, 1596).

**Обвязоватися I** *дзеясл., зв. ад* обвязовати I. ◊ Обвязоватися земными ланцухами — *станавіцца залежным ад жыццёвых турбот, жыць мірскімі інтарэсамі.* Подавлѧетъсѧ абовѣмъ ꙗкъ Гсдь, реклъ, и безплоднымъ бываетъ словѹ Бжемѹ, хто сегосвѣтними клопотами затрѹдненый, земными ла*н*цѹхами ѡбвѧзѹетсѧ (Мак., 358).

**Обвязоватися II, обвезоватися, обвязыватися** *дзеясл., зв. ад* обвязовати II. я у права ся не становилъ и тогомъ ся не обвязывалъ, абыхъ мелъ того брата моего ку праву поставити (АВК, XXI, 113, 1556); панъ Мартинъ ... обвезуеться помененого Осипа ... от всіакого пренагабываня заступовати (ИЮМ, XXX, 7, 1577); мы сами ... вси тые повинности и роботы с того дому ншого полнити подымуемъ и симъ листомъ описомъ ншимъ обвязуемъся (АВК, XXXIX, 248—249, 1579); же сѧ члвкъ присѧгою обвѧзывалъ, ижъ в немъ таковыи намѣтности далей не повстанѹтъ (Мак., 140); Не вшетече*н*ства, ани чѹжоло*ж*ства грѣхомъ ѡбвѧзѹютѕсѧ: не свѣдчать фалшиве (Варл., 251); Ізраиль шлюбо*м* сѧ гсдѹ ѡбвѧзѹючи реклъ: если подаси тотъ людъ вѕ рѹки наши зглядимъ мѣста егѡ (Хран., 141—141б).

**Обвязокъ** *наз. Тое, што і* обовязокъ. мы гсдрь ѡбецуе*м* ... по*д* ты*м* жэ ѡбвꙗзкомъ нашымъ (Ст. 1566, 27); сынове мои ... на продажу того двора и пляцу моего Горностаевского тому збору еванелицкому, такъ на очищенье его и на вси обвязки, въ томъ листе моемъ менованые, позволили (АВК, XX, 33, 1577); подкоморый Меньский, чинечи досить добровольному объвязкови своему уживши в томъ прыятелей людей добрых ... выслать рачилъ (АВК, XXXVI, 180, 1582); ѹрочысты*м*, або те*ж* просты*м* шлюбо*м* и ѡбвꙗзкомъ Богѹ и вси*м* светымъ вси пра*в*дивые зако*н*ницы ѡбовꙗзѹю*т*се (Зб. 255, 378б); ѡ*т*цъ вспо*м*невшы на ѡныѕ ѡбвѧзокъ, каза*л* то чини*т* што его сына волꙗ была (Зб. 82, 323).

**Обвязыватися** *гл.* обвязоватися II

**Обганбити** *дзеясл. Зганьбіць, знеславіць.* моци ариенаса и его славне имѧ ѡбганбили, и соромотити хотели и конали (Валх., 82б).

**Обгледетися** *дзеясл. зв. Агледзецца; паглядзець вакол сябе.* Моисеи ... обгледевсѧ семо и тамо (Скар. КВ, 7).

**Обглядати** *дзеясл. Аглядаць; заглядваць усюды, шукаючы што-н.* ѡ*н* зась мови*л* и*м* шпикгове есте, пришли есте ѡбъглꙗда*т* слабъшии мѣстца земли (Біблія, 93).

**Обгноевати** *дзеясл. Забруджваць.* помененый Кгабрыель Самуелевичъ и жона его Рухома, въ тымъ дому мешкаючы, збытковати ани объгноевати не маютъ, але теперъ увошли (ИЮМ, VIII, 375, 1622).

**Обголошоный** *дзеепрым. Прачытаны ўголас.* то*т* листъ мает быти везде в томъ повете ѡбъволанъ и ѡбъголошонъ тымъ ѡбычаемъ, ꙗко и ѡ иншихъ листехъ ... естъ выше[s] ѡписано (Ст. 1588, 120).

**Обгоняти** *дзеясл. Адганяць, прагяняць.* слетешесѧ птици на мѧса мерътваѧ и обгонѧлъ е*ст* е аврамъ (Скар. КБ, 28б).

**Обгорети** *дзеясл. Абгарэць, атрымаць пашкоджанні ад агню.* тые жоны не вѣдали горꙗчости ѡгненной, и пали на ѡгни, и такъ имъ крила обгорѣли, и пали на зе*м*лю (Алекс. 1697, 18б).

**Обгородити** *дзеясл. Абгарадзіць; паставіць агароджу вакол чаго-н.* Наняли двухъ поденщыковъ посыпать стаю и коло склепу обгородить, по шесть потройныхъ на день (ИЮМ, VI, 96, 1689).

**Обгороженый** *дзеепрым. ад* обгородити. // *перан. Ахаваны, абаронены.* ѡна скончивши м҃лтву, и тую мнѣ мыслъ з се*р*ца вынела мовечи: видишъ мене грѣшную невѣсту к҃рсто*м* с҃тымъ ѡбгороженую, е*ст* есми порохъ и попелъ (Пралог, 570).

**Обгортати** *дзеясл. Ісці кружным шляхам.* Ѡбхо*ж*дꙋ: Вколо ѡбхожꙋ, ѡбго*р*таю, перехитрꙋю, ѡшꙋкꙋю (Бяр., 194).

**Обдарати** *гл.* обдаряти

**Обдареный, обдароный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* обдарити *ў* 1 *знач.* жаденъ ѡ*т* апс*л*ѡвъ, а на остатокъ ани петръ с҃ты*и*, особливыми дары ѡ*т* б҃га обдароный старше*н*ства і едновластіѧ на*д* всѣмъ костеломъ собѣ не привлаща*л* (Апакр., 108б); быдломъ и вшелякими иными великими достатки ... былъ гойне отъ Бога Сотворителя обдаронъ (АСД, I, 218, 1598); тые ... бо*л*шыми дары сꙋ*т* ѡбъдарени (Зб. 261, 161б); еще в то[s] ча*с* кгды были в[s] египте не бы*л* ѡбдаре*н* достои*н*ство*м* свяще*н*нически*м* (Бельск., 60б); Кꙋ воли бовѣмъ, томоу титоулови, и самое мѣсто збꙋдовано, и всѣми тыми, которыми сѧ хлюбитъ, ѡздобами и прерокгативами естъ ѡбдароно (Карп., 36); Давидъ вынесены[s] ѡбдароны[s] ѡ*т* пана почалъ бы*т* го*р*дымъ (Зб. 259, 338б); Ч҃лкъ богобо[s]ны[s] вшелꙗкими, прави, добрами бꙋде*т* ѡбдароны[s] (Выкл., 144). // *перан.* А маючіи розсꙋдокъ, и бꙋдꙋ-

чіи смыслными ѡтмовитисѧ не смѣютˢ, жебы ихˢ хотѧй ласкою Бж҃ею ѡбдароны сꙋть спросныи и брыдкіи мысли не трапили (Мак., 180); ласкою ꙗкою дꙋховъною або тежъ дочасною ѡбдарени бꙋдемо (Зб. 259, 629); свѣдъками сут тымъ речамъ што есмо мовили, але ихъ презъ него дх҃а ст҃ого вымовою и ласкою ѡбдарени зостали (Пралог, 561).

**2.** *Ад* обдарити *ў* 2 *знач.* побожностˢю, котораѧ бы справы ег залецати была могла не был обдароныи (Апакр., 123б); ѡлкгирдъ и кестут братове, бꙋдꙋчы над инших цвичоными, ѡбычаˢми и ꙋродою и прирожоною дѣлностю рицерскою, так и иншими спанꙗлими и великомыслными приметы ѡбдарени (Стрыйк., 539б); ꙗко тежс, не мнѣй знаменитыми вшелѧкихъ цнотъ ѡздобами, и непоколебимою вˢ Православной Вѣре статечностˢю, гойне, а ѡбфите ѡбдароных, наслѣдꙋючи (Карп., тыт. л. б); король его милость ... великою побожностью и высокими цнотами королевскими обдареный и ублагословеный, такое жъ выхованье далъ и сыну своему (АЗР, IV, 473, 1615); Чл҃къ абовѣмъ былъ паномъ всѣхъ речій ... ѡбдареный розсꙋдкомъ намѣтностій, воленъ ѡд бѣсѡвъ (Мак., 230); в першимъ стане сотвореныˢ былъ человѣкъ несмертелныˢ всими досконалостꙗми ѡбдароныˢ (Зб. 259, 279); былъ и дх҃омъ пророцкимъ ѡбдареніи ѡт гд҃а бг҃а (Пралог, 525).

**Обдаренье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обдарити *ў* 1 *знач.* кгды бы есмо, зъ нашое ласки, нѣкоторому нѣшто дали, або его чимъ осмотрѣли: отъ того жадный тивунъ, маючи взглядъ на таковое опатренье и обдаренье, не маетъ брать отъ таковыхъ посулу (АЗР, I, 121, 1492); Его кролевъская милость ... тыи прывилья ... вамъ оказати ... рачылъ, съ которыхъ есте ласце и объдаренью предковъ его милости ... добре вырозумели (КПД, 135, 1547); хс҃ ... тобе не зычыл нового ѡбдаренꙗ недзныˢ бы то был чл҃къ (Зб. 261, 114). // *перан.* то зрозумѣлъ добре ... я Иванъ Хребтовичъ за обдаренье мнѣ въ томъ ласки Божоей (АВК, I, 3, 1585).

**Обдарити, обдарыти** *дзеясл.* **1.** *Абдарыць; надзяліць падарункамі.* на молитвы ихъ панъ бог ихъ сн҃омъ ѡбдарил (Жыц. Ал., 97); воюючихъ противъ поганства ихъ милость хотѣлъ обдарити (АЗР, I, 220, 1501); абысьмо ему з ласьки нашое госъподаръское ... именичомъ яковымъ ... обдарили (АВК, XXIV, 289, 1566); унижоне насъ, господара просили, абыхмо ихъ таковою волностью обдарили (ИЮМ, I, 318, 1593); ѡбѳитостю дарѡв своихˢ гоине ихъ ѡбдарил и оубогатилъ (Карп., 21б);

прошу, абы онъ, водлугъ воли и милости своей, опатрилъ и ялмужною обдарилъ (ИЮМ, XXIV, 401, 1647); сѹдьꙗ выбраные та*к* го<sup>s</sup>ною заплатою ѡбдари*в*ши: страшливую тва*р* на левую сторонѹ ѡборoти*т* (Зб. 255, 122б). // *перан.* если по<sup>s</sup>зришъ на высоко*ст* ласки надъ прирожене которою ихъ бг҃ъ ѡбдарилъ, зна<sup>s</sup>дешъ в ни*х* всихъ ласку неви*н*ности (Пралог, 547б). *Параўн.* обдаровати *ў* 1 *знач.*

**2.** // *перан. Адарыць; багата надзяліць якімі-н. якасцямі, здольнасцямі, уласцівасцямі.* ѡнымъ правдивымъ розъсѹдкомъ а мѹдрымъ ѹмыслѹ чоловечого баченьемъ, которымъ панъ Богъ натѹрѹ чоловечѹю ѡбдарыти рачылъ (Ст. 1588, прадм.); ѡжидаемо змилованьꙗ бг҃а вседержителꙗ, просꙗчи его, абы на*м* того кр*с*та ослабилъ, а тымъ часомъ насъ терпливостью обдарити рачилъ (Апакр., 214); На*д* то маю надѣю зѹпо*л*нѹю в бозских даре*х* знаючи неви*н*нос*т* мою и*ж* мене несме*р*те*л*нос*т*ю ѡбдари*т* (Бельск., 89б); хоче*т* тебе по такъ до*л*ги*х* праца*х* заплатою несмерте*л*ности і славы вѣчное ѡбдарити (Зб. 107, 175б). *Параўн.* обдаровати *ў* 2 *знач.*

**Обдарованый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* обдаровати *ў* 1 *знач.* абы то вамъ было особливымъ листомъ отъ его милости объдаровано (КПД, 147, 1547); судили ... водлу*г* приви*л*ꙗ и нада*н*ꙗ ншо*г* на со<sup>s</sup>мѣ бе*л*скомъ ѡ*д* насъ ѡбдарованого (Ст. 1566, 5б).

**2.** *Ад* обдаровати *ў* 2 *знач.* Людие велиции в силе и мѹдростию его обдаровани (Скар. IС, 70б).

**Обдарованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обдаровати *ў* 1 *знач.* некоторые а*р*тыкулы потрэбують шы*р*шого ѡбꙗсне*н*ꙗ ку латве<sup>s</sup>шому вырозуме*н*ю а то в то*т* нап*е*рве<sup>s</sup> ꙗко се стало ѡбдарова*н*е и нада*не* ѡ*т* прадеда нашого сла*в*ное памети ꙗкге<sup>s</sup>ла (Ст. 1566, 2); Яко жъ есми тое обдарованье мое передъ врядомъ кгродскимъ замку господарьского Володимерского очевисто сознала и до книгъ ... тотъ мой листъ уписати дала (АВК, XXII, 555, 1570); они такое обдароване и вызволене отъ плаченя мытъ зъ ласки продковъ нашихъ маютъ (ИЮМ, VIII, 276, 1606).

**Обдаровати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обдарити *ў* 1 *знач.* Мы Жикгим*ѡнт* ... маючи собе достаточное розмышле*н*е ѹмысломъ добрымъ и з ласки нашое гсдрское хотя*чи* ѡбдаровати правы хресть*ꙗн*скии вси*м* прелато*м* кнꙗжато*м* пано*м* (Ст. 1529—Ф, 1); за таковые ихъ повольности ... ихъ тымъ объдаровать и потешить рачилъ и теперешъніе прозбы ... милостиве выслухалъ (КПД, 41, 1538); землю Волыньскую его королевская милость обдаровати и тыхъ врядниковъ къ радѣ своей господарьской

припустити рачилъ (АЗР, III, 65, 1554); На сойме великом вальном зъ звыклое щодробливости ласки и доброти нашое гдрьское за жеданьем и прозбою велебных ... объдаровали (СДГВ, 108, 1564); его королевская милость съ плаченья прутового пляцовъ местскихъ домами оселыхъ насъ вызволити и тымъ насъ обдаровати рачылъ (АВК, I, 158, 1584); Гдь Бгъ ѡбдаровал мѣсто свое стое иерꙋсолим выбавенем ѡт всѣхъ неприꙗтелеѕ его (Пс. XVII, 26).

**2.** // *перан. Тое, што і* обдарити *ў* 2 *знач.* вашее кнежацкое милости прошу то все ... зъ высоцѣ мудрого баченья своего, которымъ тебе Богъ обдаровалъ ... розумѣти и оборочати рачилъ (АЮЗР, I, 281, 1598).

**Обдаровывати** *дзеясл. Тое, што і* обдаряти *ў* 1 *знач.* тых завжды особливою ласкою ... и всимъ помноженьемъ добра их помножати и обдаровывати мають (Пін., 55, 1540).

**Обдароный** *гл.* обдареный

**Обдартый** *дзеепрым. Аграблены, абрабаваны.* покорные которие набытые добра маетности мают бꙋдꙋт ѡбдартые (Зб. 259, 342).

**Обдартье** *наз. Аграбленне, абрабаванне.* вси они ... на лупъ и объдартье людей всякого стану богатых и убогих ... шли (АВК, XXXIV, 193, 1660).

**Обдарыти** *гл.* обдарити

**Обдаряти, обдарати** *дзеясл.* **1.** *Абдорваць; надзяляць падарункамі.* тымъ нинейшымъ листомъ нашымъ ихъ тымъ объдараемъ (Пін., 55, 1540); так же гоѕне гсдь богъ мꙋченики ѡбдарает: абовемъ достатечне свет тѣло свое, и сатанꙋ звытꙗжыли (Зб. 255, 220б); намъ милые были дары которыми нас бгъ ѡбъдарꙗет (Зб. 259, 169). *Параўн.* обдаровывати.

**2.** // *перан. Адорваць; багата надзяляць якімі-н. якасцямі, здольнасцямі.* велце сѧ дивовали, Бга за все выхвалѧючи, который себе милꙋючимѕ помоч и ласкꙋ подавати никгды не переставаетъ, и великими добродѣйствы ѡбдарѧетъ (Варл., 362).

**Обдарятися** *дзеясл., зв. ад* обдаряти *ў* 2 *знач.* Часомъ розꙋмомъ ꙗкимсь, таемною мꙋдростѕю и невыбаданою вѣдомостѕю дха, зѕ ласки обдарѧетъсѧ, што ꙗзыкомъ и оусты вымовитисѧ не можетъ (Мак., 194).

**Обдержаный** *дзеепрым. ад* обдержати *ў* 3 *знач.* індиꙗне то слышавшы страхом великим ѡбдержаны были (Алекс. 1697, 48б).

**Обдержати** *дзеясл.* **1.** *Дабіцца, дамагчыся ўлады над чым-н., завалодаць чым-н.* Море и страну полуденную обдержить

(Скар. ДЗ, 65); приимуть свѧтии бога вышнего и обдержать Царство даже вовеки, и въвекъ векомъ (Скар. ДП, 24).

**2.** *Атрымаць што-н. шляхам намаганняў, барацьбы.* где бы ѡбде*р*жалъ ѡбчого народу ч҃лвкъ которы<sup>s</sup> ꙋр*ѧд* дꙋховны<sup>s</sup> и све*ц*ки<sup>s</sup> противъ сему статуту и напомененыи пустити того не хотелъ (Ст. 1566, 30). // *перан.* вбогихъ призываѧ. тако бо сотворѧюще. обдержимъ ее с҃тоую милость (Чэцця, 47); жертва спасительнаѧ е*ст* пилну быти заповѣдеи божиих, и ѡ*т*ступити ѡ*т* каждого грѣха. и помилование приношениемъ обдержати надъ несправедливостию (Скар. ІС, 58б); в то времѧ приидоша людие божии ко вратом<sup>s</sup> градовым<sup>s</sup>, и обдержали суть господствие (Скар. КС, 12).

**3.** // *перан. Ахапіць; апанаваць; уключыць у сферу свайго ўздзеяння.* все страны прихожаху до египтꙋ купити пищу, одержа ꙋбо гладъ всю землю (Скар. КБ, 76б); Ѡве*н* ... силꙋ имаеть горѧчоу и соухꙋ. а ѡбдержить головж и ѡчи и иныѧ части головныѧ (Неба, 64); зле то же васъ стѣнъ милость обдержитъ, и коханье сѧ в них ого*р*нꙋло, зле же ц҃рковъ б҃жію в<sup>s</sup> дахахъ и в бꙋдованью оусмотрꙋючи чтите (Апакр., 84б).

**Обдержащий** *дзеепрым. ад* обдержати *ў* 3 *знач.* азъ ѧко раба ... почию ѡ*т* трудовъ своих, и ѡ*т* ѡбъдержащихъ мѧ болѣзнеи иже мѧ ныне содѣржать (Скар. КІ, 6б).

**Обдерживати** *дзеясл. Трымаць што-н. у сваёй уладзе; валодаць чым-н.* Въ силѣ мышце твоеѧ овладелъ еси землю, и насилнеишіи сыи объдерживалъ еси ю (Скар. КІ, 28). *Параўн.* обдржати.

**Обдержимый** *дзеепрым. ад* обдержати *ў* 3 *знач.* вес миръ ѡбдержи*м* грѣхи. мо*л*бами своими разрѣшаеши (Чэцця, 229); голодо*м* стали ѡбдержими живоущаѧ во земли тои (Там жа, 233); слышавши то іерслимскій сонмъ со страхо*м* велики*м* ѡбде*р*жимы были (Алекс. 1697, 25).

**Обдилание** *наз. Будаванне; уладкаванне.* ты ему дал из братею до нашое воли мѣстце в замъку мѣнском на обдилание дому убѣжища (СДГМ, 7, 1513).

**Обдирати** *дзеясл. //перан. Грабіць, рабаваць.* банитове ... розбое*м* сѧ бавити и подорожных ѡбдирати раны имъ задаючы звы*к*ли (Зб. 259, 280).

**Обдираючий** *дзеепрым. ад* обдирати. Сілѡам<sup>s</sup>: Посланы*и*, а*б* голь, а*б* ѡрꙋж<sup>s</sup>е, з<sup>s</sup> сѵ*р*: обдираючі*и* (Бяр., 309).

**Обдирокъ** *наз. Абрывак.* таіа полкопы мне іако за годъ гостинца дошла и положилъ обдирокъ того запису Лукъіана Митковича (ИЮМ, XXXII, 184, 1578).

**Обдржание** *наз. Падтрымка; апора; утрыманне.* Вина: Емленіе, причина, албо оухо, рꙋкоѧсть всѧкои речи, албо подложеніе, непщеваніе, основаніе, ѡбдръжаніе, ключка, извѣтъ, или повод (Бяр., 14).

**Обдржати** *дзеясл. Тое, што і* обдерживати. Всю Трацыю, Дардарію, Харватію ... Руссѵю Малую и Великую и всѣ полночные стороны ажъ до Акіянъ великого моря обдръжачи, благословенство пастырское роздаемъ (Пыт., 9).

**Обдукция** *наз. Дакумент аб выніках судова-медыцынскага ўскрыцця.* пленипотентъ жидовъ Берестейскихъ ... при томъ обдукцию енеральскую презентованья того забитого жида на врадѣ выписами врадовыми ... покладалъ (АВК, V, 30, 1665).

**Обе** *гл.* оба

**Обегати** *дзеясл. Аббягаць; бегучы ў абход, абмінаць каго-, што-н.* твоя милость мене повольного своего предъ тымъ рачилъ ся стронити и обѣгати (АСД, I, 143, 1567); ѡбтичꙋ: ѡбѣгаю (Бяр., 193). // *перан. Пазбягаць; старацца не рабіць чаго-н.* лихоты ѡбегаимо. ани с кимъ гнѣвъ имѣемъ (Чэцця, 163); блꙋда и граблѣниꙗ ѡбегаимо (Там жа, 298б).

**Обегреванье** *наз. Тое, што і* обогреванье. для сторожей крамныхъ для обегреванья и пилнованья кабаку купили дровъ (ИЮМ, I, 77, 1679).

**Обегчи, обечи** *дзеясл.* **1.** *Ababегчы; бягом зрабіць круг вакол чаго-н.* Которые студенты вколо обѣгши и другими вороты изъ Острое улицы до колеуму русского впадши, того пана Симона ... ранили (АВК, VIII, 30, 1598); ѡбѣгши замок андреѕ кролевич венкгерскиѕ, ѡсадил его добре венкграми (Стрыйк., 482); тотъ мужобойца, обегшы дворъ, до коморы дей его небощыковское прыбегъ (АВК, XVIII, 211, 1607).

**2.** *Паспешліва наведаць усе або многія мясціны.* Обегши всю сторону тую. почали на короватѧхъ пріносити хорихъ (Цяп., 52). *Параўн.* обежати *ў* 1 *знач.*

**Обедати** *дзеясл. Абедаць, есці абед.* коли ѡные пание устали ѡбѣдавшы, поклонившы сѧ пошли кождаꙗ до своее господы (Бава, 137); цесар иꙋстиниꙗн ... през ві днѝѕ не ѡбѣдал ни вечерал, але все ꙗдене и напиток своѕ и пѣ̃зеѕ велми мног роздал нищим и ꙋбогим (Бельск., 326); ꙗрополкъ в малоѕ своеѕ дрꙋжине ѡбѣдал (Стрыйк., 474); По отпустѣ литоргиі просил о҃тць Сергиі кн҃зя Дмитрия, жебы обѣдал у нихь (Мам., 174); впала в домъ чꙋжыѕ, и вшедши где ѡбедали вес дом плачем и смꙋтком наполнила (Зб. 255, 170—170б); теперъ хочу жебыс со мною ѡбѣдала (Зб. 82, 437); Якъ обедали панове, въ той часъ

купили ситницъ и пироговъ (ИЮМ, XI, 44, 1697). *Параўн.* обедовати.

**Обедаючий** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто абедае.* Подобенство ... ѡ*д* трꙋдоватого, рн҃ѳ. ѡ*д* шлѧхтича, рѯ. ѡ*д* ѡбѣдаючого, рѯа. ѡ*д* велерыба, рѯв (Мак., 399).

**Обедве** *гл.* обадва

**Обедвы** *гл.* обадва

**Обедити** *дзеясл. Прыгнесці; паставіць у цяжкія ўмовы.* реклъ бых бг҃ꙋ не винова*т* мѧ поведаи ми про што свари*ш*ѧ со мною: чи лѣпшеи тобѣ и*ж* ѡбеди*ш* иже ѡмерзѧешь тр*ꙋд* дланеи свои*х* и нарадꙋ нечестивы*х* сьѧзнилъ еси (Зб. 262, 16).

**Обедка** *наз. (?).* Посудъ домовыхъ ... сукна ... плотенко турецкое ... скуръ лосихъ двѣ, и обѣдокъ выправные (АВК, IX, 468—469, 1626).

**Обедний** *прым. ад* обедня. въ неделю, въ годину обеднюю, слыхъ былъ по рынку, же чернцы спаскіе хочутъ звоны знимать (ИЮМ, VIII, 444, 1633).

**Обедня** *наз. Абедня (набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або днём).* оусхочомъ къ ст҃ои ѡбѣдни поити (Чэцця, 363б); того дни князь великій звалъ пословъ къ столу, а самъ пошелъ къ обѣднѣ (АЗР, I, 231, 1501); теперь не старца или презвитира, але того што с плешо*м* обѣдню служить попо*м* зовуть (Будны, 240б); хто будет завтриню и божю службу то ест обеднюю у болшого олтара церкви светое Тройцы отправоват (СДГВ, II, 15, 1594); Митрополитъ киевъски*и* и всеѧ рꙋси ... в костеле лати*н*ско*м* рымско*м* ѡбедню або лито*р*гию ме*л* (Бер. саб., 46б); шолъ у неделю прошлую зъ дебри, зъ гулянья, передъ обеднею (ИЮМ, VIII, 321, 1612); служачи ѡбѣдню коли по*д*носи*л* животворѧщие та^s^ны хр*с*товы, ви*д*ѣ*л* васил*е*^s^ и иншие ... ꙗ*с*но*ст* великую (Зб. 82, 291б).

**Обедовати, обедовать** *дзеясл. Тое, што і* обедати. заꙋтра опѧть имамъ в нее обедовати с царемъ (Скар. КЕ, 11); съ мужемъ завидливымъ не обедуи (Скар. ПС, 35); царева*ꙗ* тежъ ес*ѳ*и*р* жадного иншого не возвала на ꙋчту з царе*м* ѡдно мене; ꙋ которои те*ж* ꙋтро з царе*м* ѡбѣдова*т* маю (Біблія, 580); са*м* ажъ ѡ девꙗто^s^ годинѣ з^s^ мнихами подорожними ѡбѣдовалъ (Пралог, 521б).

**Обедъ, обидъ** *наз.* **1.** *Абед (яда сярод дня); форма прыёму гасцей.* ѡнъ того ивана. на ѡбѣде стѧлъ (Чэцця, 318); ѡнъ собе на кривомъ столе прилегъ спати по ѡбеде (КВЗС, 103б, 1539); хочу вам служыти, ѡдному пры ѡбеде, а другому пры вечеры (Бава, 136); волынцовъ и подолꙗнъ мело бы*т* немало ꙋ пана

подскарбего на ѡбеде (Барк., 151); потом ихъ просилъ до себе на ѡбѣдъ (Хр. польск., 18); посланца ... послалъ, просечы его милости ... на обидъ (АВК, XX, 274, 1621); барзо з великою тескностью конца ѡбѣдꙋ дочекат не моглъ (Зб. 81, 69); купили ... на обедъ мяса шроты два до печеня, за полталера (ИЮМ, VIII, 64, 1691). *Параўн.* обядъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Ежа для спажывання ў час абеду.* даниелови межи грозных львовъ седѧчомоу ѡбед принеслъ (Валх., 49); ото обедъ мои зготоваломъ (Цяп., 30б); котори^s ѡтк ладает прыготоване аж до часꙋ медитацы^s подобны^s ест томꙋ котори^s кгды ꙗсти час готуеть ѡбед (Зб. 261, 70); ѡлоферн ъ справил ѡбѣд велики^s (Бельск., 159); у него дей обедъ зъевшы ехалемъ до Пасиничъ (АВК, XVIII, 250, 1619); Арістофоронъ: Начине на которомъ обѣды носѧтъ, або широкаа миса, або талѣръ (Бяр., 235); аввакꙋм сты^s на земли своей бꙋдꙋчи и неслъ женцемъ своим ѡбѣдъ на поле (Зб. 82, 208); Зъ розказаня п. бурмистра, справовали обедъ для пановъ поборцовъ (ИЮМ, XIII, 100, 1699). *Параўн.* обядъ *у* 2 *знач.*

**3.** *Абедзенны час.* сꙋд израна а любо до ѡбѣда а любо да полꙋдни имаеть быти сꙋженъ (Вісл., 6); оубиенъ кн҃зь великии Жидимонтъ [!] оу Троцехъ оу верьбноую недлю. перед ѡбедомь (Увар., 107); вы рано до обѣда причащаетеся (Будны, 246); ꙋв обедъ веремѧ звѣзды сѧ ꙗвили (Рач., 331); перепустил гсдь богъ моръ на израилꙗ, ѡт поранку ажъ до ѡбѣда (Біблія, 399); В хоробѣ смертелнои могꙋт сѧ и по ѡбѣдѣ причащати, и на кождый часъ (Навука, 46—47); назавтрее в сꙋботꙋ в ѡбѣд пан канцлѣр в дорогꙋ мꙗ выправꙋючи пꙗт талꙗров до турмы прислал (Дыяр., 176); Того жъ дня, у обедъ, еще умовили человекъ десять на варту (ИЮМ, XI, 62, 1697).

**Обедьве** *гл.* обадва

**Обежати, обежать** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обегчи *ў* 2 *знач.* вернꙋлисꙗ шпекгове по м҃ днꙗх ѡбежавши краины вси до своих на пꙋщꙋ (Бельск., 60).

**2.** *Акружыць, узяць у кальцо; асадзіць.* нарадившисꙗ порꙗдне и достатечне, назначили собѣ певны^s час, и ден коли ѡбадва мѣли вилню ѡбѣжат и ѡпановат (Стрыйк., 540); кестут ... замки ѡбадва виленские вышши^s и нижны^s, або кривы^s ѡбѣжал (Там жа).

**Обеженье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обежати *ў* 2 *знач.* Кестꙋт на ѡн час пилно готовал сꙗ промышлꙗючи и вына^sдꙋючи фортели розмаиты до ѡбѣженꙗ замков виленских (Стрыйк., 540).

**Обежратися** *дзеясл. Тое, што і* обожратися. абы не ѡдног мнѣˢ а дрѹгог болеˢ, або постившы два дни албо тры, потым сѧ ѡбежрати (Зб. 261, 102б).

**Обезати I** *гл.* обязати I

**Обезати II** *гл.* обязати II

**Обезатисе** *гл.* обязатися

**Обезпечати** *дзеясл. Супакойваць; рассейваць трывогу, хваляванне.* онъ не слухаючи мене, словами уводилъ и обезпечалъ, же ми ничого за то не мело быти (ИЮМ, IX, 304, 1637).

**Обезпечатися** *дзеясл., зв. ад* обезпечати. тое все его подручники за рѣчъ правдивую пріймують ... на то ся обезпечаючи, ижъ будто бы онъ мѣлъ быти Петра святого намѣстникомъ, которого и брамы пекелные премочи не могутъ (АЗР, IV, 234, 1600—1605); кгды поблажѹ, не ѡбезпечайтесѧ: бо если сѧ негѡдными станете, не дойдетˢ васъ обѣтница моѧ (Каліст, II, 10б).

**Обезпеченый** *дзеепрым. ад* обезпечити. в рокоу еще афчв, данью, (вˢ котором сѹть обезпечени, же длѧ всѧкого оскарженьѧ, клѧтвы и оголошенˢѧ, бы добре противъ становъ ихъ ведлѹгъ правъ дх҃ѡвныхъ и свѣцких было достоенствъ не мѣли тратити) (Апакр., 207—207б); што ѡсобливе длѧ того чинилъ, абы неприѧтел, порожнѹю и ѡбезпеченѹю дш҃ѹ его нашовши, нечистыхъ мыслій вˢ немъ не всѣѧл (Варл., 272).

**Обезпеченье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обезпечити. обезпеченье границъ и опатрованье замковъ нашихъ украинныхъ (АЗР, III, 192, 1576).

**Обезпечиватися** *дзеясл. Супакойвацца; пераставаць трывожыцца, хвалявацца.* гонецъ ... радитъ и напоминаетъ, абысмы ни на што ся не обезпечивали, але въ чулости и въ готовности и въ осторожности были (АЗР, III, 147, 1568).

**Обезпечити** *дзеясл. Засцерагчы ад небяспекі.* естли быхмо гсдрь кого креˢтомъ своимъ ѡбезпечили ... а хто бы таковою под тымъ часомъ ранил або забилъ ... самъ маеть быти каран горломъ (Ст. 1566, 10б); обезпечивши мя зарукою господарскою ... а на тотъ часъ ... мнѣ великіе а незносные кривды чынить (АВК, II, 232, 1580).

**Обезпечитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* обезпечити *ў* 1 *знач.* ино, по грѣхомъ, ведучи тыхъ пословъ, люди наши у великомъ князствѣ обезпечилися (АЗР, II, 79, 1510); листа ихъ купчого ... при собе не маю, обезпечилъ се есми, ижъ вчорашнего дня, в суботу, приезджалъ до мене бояринъ Видуклевский (АВК, XXIV, 105, 1547); мыслѧщемѹ много розных срѡдковъ до того

слоужити мнѧщыхсѧ, на памѧть приходіло; ѡднакъ жаденъ не былъ такій, которымъ быx достатечне писмо свое ведле зд*анѧ* своего обезпечитисѧ былъ сподѣва*л* (Апакр., 2).

**2.** *Супакоіцца; перастаць трывожыцца, хваляваццa.* Абысмо теды грозою перестрашени, роспачивши не затвердѣлисѧ: а обѣтницею поблажены обезпечившисѧ не ѡпꙋстили сѧ (Каліст, II, 10б); Потомъ зась, кгды вже ѡбезпечившисѧ жи*л*, и в[s] роспꙋстѣ и роскошаx ... зостава*л*, и до*л*голѣтное свое пно̑ване быть розꙋмѣлъ, знагла мещане противко немꙋ по*в*ставши ... до великого нѣѧкогоc и далеко ѡ*т*леглого островꙋ ѡ*т*сылали (Варл., 118—118б).

**Обезряный** *прым. Бачны, аглядны.* оузгоріа дивы и звезды везде ꙗсне были ѡбезрѧны (Валх., 42б).

**Обезславенье** *наз. Ганьба, знявага.* Ѡxꙋжденіе: Ѡбезславенье, ѡплошеньесѧ (Бяр., 201).

**Обезстудити** *дзеясл. Абняславіць, зганьбіць, асарамаціць.* Ѡбезсрамилъ: Ѡбезстꙋдилъ (Бяр., 191).

**Обезстужатися** *дзеясл. зв. Пазбаўляцца сораму.* добрымъ безстꙋдствомъ обезстꙋжает[s]сѧ, и занехавши здалека кричати, близко приходи*т*, и кланѧет[s]сѧ Хо̑у (Каліст, II, 100б).

**Обезчествованый** *дзеепрым. Зняважаны.* послы твои у насъ обезчествованы и задержаны (АСД, IV, 4, 1562).

**Обезчестевати** *дзеясл. Ганьбаваць, няславіць.* Поповъ до тоей унѣи кгвалтомъ притягали, а которые зводити ся имъ не давали, оныхъ обезчестѣвали; другихъ вязенемъ и муками трапили (АЗР, IV, 220—221, 1600—1605).

**Обезчестеный** *дзеепрым. ад* обезчестити. ѡ*т* тебе наши спросне соу*т* а к томоу невинне, ꙗкъ сѧ показало, обезчестени (Апакр., 169б).

**Обезчестити** *дзеясл. Абняславіць; зганьбіць.* патріархъ за леда обмовы обезчеститъ и врядъ здойметъ (АЗР, IV, 211, 1600—1605); ѡбельживши и ѡбезчестивши его, наостатокъ крестною смертю покарали (Мак., 42).

**Обезчестье** *наз. Абняслаўленне; ганьбаванне.* мы ... в то*м* ꙗкова перева*л*кꙋ ви*н*ного есмо зна*ш*ли а ѡбезчестье пꙋшкарова ѡ*т*ложи*л* есми до ѡпытаньꙗ пана его мл*с*ти (КВЗС, 11, 1533).

**Обезъяна, обезъана** *наз. Малпа.* ѡ*т*толѣ приношали злато, и сребро, зубы слоновы, ѡбезъаны, и павы (Скар. ТЦ, 151); Пiѳvкъ: Кот[s] морскій, ма*л*па, ко*ч*кода*н*, ѡбезѧна (Бяр., 303); ѡбезъꙗна скоштовавъши часто ѡреха, котори[s] е*ст* зве*р*xꙋ го*р*ки[s] заразъ ѡны[s] покидае*т* (Зб. 259, 463).

**Обезьествие** *наз. Адсутнасць ежы.* хто наражаеть воронꙋ кормь его иже дѣти его к бꙋ̑ всkликають приближаютсѧ ко ѡбезьѣствію (Зб. 262, 29).

**Обеймати** *дзеясл. Тое, што і* обнимати. ты, Андрею Ейсмонте ... зъ челядью домовою ... того пана Адама Ейсимонта вжо ранного повели, обеймаючи по плечахъ (АВК, I, 320, 1646).

**Обеймовати** *дзеясл. // перан. Ахопліваць, авалодваць поўнасцю (пра пачуцці, думкі і пад.).* мꙗ тежъ страхъ ѡбеѕмовалъ и мыслити ѡ тымъ (Зб. 259, 341).

**Обейсте** *гл.* обейстье

**Обейстисе, обейстьсе** *дзеясл.* **1.** *Абысціся; задаволіцца тым, што ёсць у наяўнасці.* сторона... и безъ прысеги обейсти се могла (АВК, I, 315, 1646).

**2.** *Паставіцца пэўным чынам да каго-, чаго-н.* с писма ст҃го кꙋ пожиткꙋ ихъ збавеномꙋ ꙋпоминанꙗ приводилъ, звлаща ꙗко се на панстве с поддаными ѡбеисть мели (Пралог, 664б).

**Обейстье, обейсте** *наз. Тое, што і* обыйстье *ў* 1 *знач.* Поневажъ ничого на земли не маемо, прейдѣмо на нб҃о, гдѣ скарбъ и ѡбейстье наше (Мак., 96); не кладетъ надѣи вѕ працахъ своихъ и ѡбейстю своем, нимъ чого сѧ сподѣвалъ осѧгнетъ (Там жа, 119).

**Обейстьсе** *гл.* обейстисе

**Обелга** *гл.* обелкга

**Обелженый** *гл.* обелжоный

**Обелженье, обельженье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* обелжити. пан Станислав Сологуб ... за тое обелжене мое мне дей перепросил и досыт учынил (АВК, XXXVI, 333, 1582); где бы се трафило жаловати которомꙋ шлꙗхтичꙋ на мещанъ нашихъ виленьскихъ ѡ збитье ѡ раны и ѡ забоѕство и ѡ кождое ѡбелъженье (Ст. 1588, 105); наибольшое ѡбелженъе ꙗкобы ꙗкимъ безецникомъ не з рꙋкъ в рꙋце, але на киѕ ꙋзѧвшы свое писма черезъ ѡсобъ легкихъ незнаемых подают (Унія, 4 —4б); ѡнъ ... не хотечы таковогo ѡбельженьꙗ на собе поносити (КЛС, 22б, 1596); великое обельженье стану моего духовного ... поткало ме отъ архимандрита (АВК, VIII, 72, 1607); ѡ ѡбелъженъе свое на ꙋчъстивости к ꙋроженъю своемꙋ шлꙗхетъскомꙋ за противнымъ до нас ꙋданъемъ ... позовъ выдали (ККСС, 22б, 1615); зѕ неславою и ѡбелженѕемѕ положивши обѣ рꙋки на головꙋ выгнана бꙋдетъ (Мак., 124); Нечестіе: Обелѕженѕе (Бяр., 3); пану Нарубню и пану Путяте на замку, за обелжене словами непристойными енерала ... дванадцат недел в Оршы сидет нака-

зуем (ИЮМ, XXVI, 320, 1669); ку суженью припала справа ... о обелженье и неслыханое ... змазанье на гонорѣ презъ пашквиле (АВК, XV, 268, 1670).

**Обелжити, обелжыти, обельжити, обельжыти** *дзеясл. Абразіць, зняважыць.* гдѣ бы тежъ хто кого невинъне ѡбъжаловалъ, и за его ѡбжалованьемъ, на врꙗде задеръжанъ былъ, а тымъ задеръжаньемъ его ѡбелжилъ, ку шкодамъ и накладо*м* привелъ (Ст. 1588, 166); панъ Янъ Бацевскій ... зо всимъ мѣстомъ Милечицкимъ збунтовавшисе ... догонивши его пана Яна Телятыцкого ... зшарпали и обелжыли (АВК, VI, 18, 1589); Ольбрихтъ Чаплинскій ... у плеча его ударилъ и тымъ особу его духовную обелжилъ (АВК, VIII, 69, 1605); ѡбельживши и ѡбе*з*честивши его, наостатокъ крестною смертю покарали (Мак., 42); умысливши мене обельжыть и на утстивости моей мене утстивого шляхтича помазать (АВК, XVIII, 288, 1627); твоя милость ... розказалъ слугамъ и челеди своей ... пани Радишевскую обелжыть (АСД, III, 111, 1631); кгды Бг҃ъ та*к* зе*з*волилъ, абы Сн҃ъ его на землю пришолъ, ѡного ѡбелжи*в*ши, Понтійскомꙋ пілатꙋ ... выдали (Варл., 249б—250).

**Обелжоный, обелженый, обельжоный** *дзеепрым. ад* обелжити. кгвалтꙋ верхꙋ менованого, стороне ѡбельжоноѕ заплатити не хотелъ (Ст. 1588, 219); старо*с*та ѡбе*л*жоныѕ бꙋдꙋчи, пре*д*сꙗ*ж* мл*ст*ю ѡбнꙗтыѕ росказа*л* всѣ*х* побити (Бельск., 286б); Гды пре*д* килкома лѣты длѧ Бл҃гочестіѧ, за інстінктом и інстанціею незбе*д*нои ꙋнітскои Апостасіи, и на оучтивом и на животѣ ѡбелженъ и пожит быти, шлѧхетный сей мꙋжъ всед꙽ꙋшнѡ шꙋкан былъ (Сматр., 30).

**Обелжыти** *гл.* обелжити

**Обелити** *дзеясл. // перан. Зрабіць чыстым у маральных адносінах.* ѡ розꙋмных соблазнѧтсѧ прочищати в них и ꙗснити и ѡбелити до часꙋ конца еще бо виденіе ѡномꙋ часꙋ (Зб. 262, 125б).

**Обелитися** *дзеясл., зв. ад* обелити. *// перан.* Замкнены суть и запечатаны слова сиѧ даже до часу ꙋставленого. выбрани будуть и обелѧтьсѧ и ꙗко огнь искушени будуть мнози (Скар. ДП, 34); изыꙗснѧтьс и ѡбѣлѧтьс и ѡчистѧтсѧ многыи и оунечестивѧтсѧ нечестивіи (Зб. 262, 126б).

**Обелкга, обелга, обельга, обелькга** *наз. Абраза, зняважа.* с*ꙋд* голо*в*ны ... за ѡбе*л*гꙋ ꙋрожоно*г* росохацко*г* на ше*ст* неде*л* седе*н*ꙗ в замо*к* ми*н*ски вска*з*авшы ѡное по*д* виною выволанꙗ выкона*т* наказа*л* (КАР, 82б, 1648); акторъ мой укрывжоный обельги своей реквизировать не моглъ ничимъ (АВК, XV, 63,

1653); будетъ ли паказъ суду вашъмостей на томъ, яко правдиве таковый екъсъцесъ крыминалъ и обелькга, яко въ жалобе позовной выражоно есть (АВК, XXVIII, 354, 1654); Въ чомъ отцове Базылиане маючи такъ великую обелгу и кривду ... симъ позвомъ нашимъ передъ судъ нашъ припозываетъ (АВК, I, 336, 1666); теды жалуючы почал на вас нарикат о обелкгу (АВК, XXXI, 398, 1668); въ кривдѣ и обельдзѣ незносной самого его милости ... о неслушное помовенье (АВК, XV, 333, 1673).

**Обель, абель, обелъ** *прысл. У поўную ўласнасць; цалкам, поўнасцю; зусім.* дядько нашъ Григорей ... тое селцо продалъ Сеньку Дичку обел вечно (Арх. ЮЗР, VIII—4, 123, 1498); написано в листе отца его, естли бы тое земли не выкуплено до дванадцати лет, тогды обель маеть быти де*р*жана (ПГ, II, 200, 1502); селищо свое ... продалъ есми обѣлъ вѣчно и непорюшно (АСД, I, 4, пач. XVI ст.); двѣ сыножатіи [!] ... пану Бортку Юревичю ... и дѣтемъ его, абель вѣчно и непорюшно (Там жа, 5); ѡна послѣ того тотъ домъ продала пану Льву Боговитиновичу ѡбель (КСД, 265, 1516); она мнѣ тую дочку свою не заставила, але обель продала за копу грошей (АВК, XVII, 25, 1539); Мы ... продали есмо землю свою бортную ... обель вѣчне (РПП, 174, 1553); тая жонка Кулиница в часъ голодный отъ батька своего Мокея ... Семену Цырскому за полторы копы грошей обель продана (Пін., 128, 1561); мы ... тотъ домъ и пляцъ ... продали есьмо обель вѣчно и ничимъ непорушно (АВК, VIII, 11, 1594); одписываю пашню свою всю ... и што есть полъ [!] иншихъ купленые обель опрочь тое пашни (АВК, I, 55, 1633); теды тые добра обель вечъно и непорушно пущаю, даю, дарую и записую ... всей братіи монастыра братского могилевского (ИЮМ, IX, 316, 1637). ◊ Н а о б е л ь — *назусім, назаўсёды.* шлюбилъ учъстиве ховати презъ вырокъ вашъмости, але онъ ховаетъ ее не такъ, яко обецалъ, снать ижъ на обель жене моей (ИЮМ, VIII, 258, 1600).

**Обельга** *гл.* обелкга

**Обельженье** *гл.* обелженье

**Обельживость** *наз. Абраза, знявага.* естли бы котораꙗ сторона при ѡбъжалованью своемъ, того правне довела, ижъ самоˢ ѡсобе его ѡбельживость, зраненье, боˢ, або забитье сталосе (Ст. 1588, 33); ѡдинадъцатое ѡ ѡбельживость возныхъ на справе ѹрꙗдѹ ихъ (Там жа, 187).

**Обельжити** *гл.* обелжити

**Обельжоный** *гл.* обелжоный

**Обельжыти** *гл.* обелжити

**Обелькга** *гл.* обелкга

**Обельный** *прым. ад* обель. одписываю пашню свою всю ... и што есть полъ [!] иншихъ купленые обель опрочь тое пашни, и тыя поля придаю къ той же пашни обельные ... светому мученику Борису и Глебу (АВК, I, 55, 1633).

**Оберане** *гл.* оберанье

**Обераный, оберэный** *дзеепрым. ад* оберати ў 2 *знач.* на врꙗды земские и дворныя не толко подданые костелу рымского ѡт того часу ѡберэны и прэкладаны быти маютъ (Ст. 1566, 3б); кгдыж ꙋже и з самых францꙋзов (которие до римꙋ внесли ересеˢ немало) папежи ѡберано (Бельск., 384б); быс то первеˢ господу богꙋ на молитве порꙋчылъ, а ѡсобливе если бы за старанем твоим ... ꙗкиˢ слуга церковныˢ ... мел быт ѡбераныˢ (3б. 255, 181б).

**Оберанье, оберане** *наз. Дзеянне па дзеясл.* оберати ў 2 *знач.* кгды сꙗ епископы зъехали на ѡберане епископа, зъехали: на ринъкꙋ, а ѡнъ ꙗгоды кꙋпꙋет епифаниˢ (Пралог, 673); на сессыю для обераня пановъ пословъ ... дали золот. одинъ (ИЮМ, IV, 74, 1686); патронъ его милости на сеймику громничнымъ подчасъ оберанья ихъ милостей ... домавлялъсе (АВК, XV, 490, 1686).

**Оберати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обирати ў 1 *знач.* приводѧчи писмо, не потому приводить ꙗко написано, але тольки оные слова ѡбѣраеть, а оные минаеть, которие напротиву его стоѧть (Будны, 137б); ѡберают собѣ мешкане абы могли поˢзрене мѣти доброе (3б. 261, 144б); я на томъ року чиненья справедливости не того чоловека до присеги обералъ (АВК, XVIII, 239, 1615); Хотꙗ панъ бг҃ъ всюды ест, вшакже ѡбѣраетъ собѣ нѣкоторіи мѣсца ѡсобливыи, где сꙗ людем ꙋказꙋет (Выкл., 22).

**2.** *Тое, што і* обирати ў 2 *знач.* сами чернцы сего монастыра игумена оберать маютъ (АВК, XI, 10, 1517); абы судьи и писари ... вы сами межи собою оберали (КПД, 257, 1554).

**Оберат ися, оберат исе** *дзеясл., зв. ад* оберати ў 2 *знач.* кгды ѡтросли. ѡказалсꙗ исав грꙋбым, недбалым ѡбералсꙗ ѡколо ролиˢ, а мисливства, иꙗков был простыˢ, тихиˢ (Бельск., 20б); к тому не ѡ всих верныхъ таꙗ приповест мовить, але ѡ таких которые в различных справах цнотливых се ѡберают, абовем поведа тые которые вышли против ѡблюбенцови з свечами, свечы ꙋчынки добрые значатсе (3б. 255, 226—226б); Наставница новѣцыꙋшокъ маетъ ѡбѣратисѧ кождого рокꙋ (3б. вып., 77).

**Обервати** *дзеясл. Тое, што і* оборвати *ў* 1 *знач.* При которомъ бою ... з мешкомъ обервали грошей литовскихъ петънадцать (АВК, XXVI, 493, 1586); у молодицы войтовое обервали з шыи шнур денег московских, на которомъ было тридцат копеекъ (АВК, XXXIV, 421, 1666).

**Оберегати** *дзеясл. Ахоўваць, сцерагчы.* воеводове, оберегая своего безголовья, мусили его Борисово повелѣніе полнить (АЗР, IV, 268, 1608); говорили гетману, полковникомъ и ротмистромъ, штобъ гетманъ съ войскомъ шолъ стояти въ Москву и вмѣстѣ съ бояры того оберегалъ, штобъ люди Московскіе не шастнулися къ вору Калужскому (АЗР, IV, 476, 1615); онъ того оберегалъ, што при Новогородку написаны и городища старинные (АЗР, V, 36, 1637).

**Обережение** *наз. Ахоўванне каго-, чаго-н. ад чыіх-н. нападкаў, варожых дзеянняў.* гетманъ корунный въ столицу вшолъ, и мене ... оставилъ, не для уряду на Москвѣ, але надъ войскомъ Польскимъ и Литовскимъ, для обереженія вмѣстѣ съ бояры, штобъ столицы вору не подати (АЗР, IV, 478, 1615).

**Оберечи** *дзеясл. Аберагчы.* они для имени господарского и для береженья своего приговорили, какъ бы впередъ намъ оберечи столицу и себе самихъ отъ воровского промыслу (АЗР, IV, 481, 1615).

**Оберненый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* обернути I *у* 2 *знач.* бы*л* ѡди*н* в царѣгородѣ рино*к*, по которо*м* на ѡслѣ звѧзано*г* и тва*р*ю вты*л* ѡбе*р*нено*г* то*г* анастасиѧ ... волочоно (Бельск., 348б); До того мае*т*сѧ ѡ*т*правовати зе встыдо*м*, покорою, и длѧ того кающыйсѧ пры исповѣди с҃той, з боѧзнію, знѧвшы шапкꙋ, тваръ не до с҃щенника, але вбокъ, его оберненꙋю маючи, стоѧти мае*т* (Навука, 80).

**2.** *Ад* обернути I *у* 3 *знач.* Тежъ што есте въ той же прозбе своей на писме доложили, ижъ не малое вонътпенье межы вами естъ, где ся тыи пенези подели и на которую потребу земъскую оберънены (КПД, 142, 1547); тотъ мой дворъ ... при рогу двора ... Горностаевского, который на зборъ хрестиянский оберненъ и збудованъ для преповеданья слова Божьего (АВК, XX, 44, 1582); мають быти тые пенези хованы и обернены быти кождому посполитому человеку на местьские потребы (СДГВ, 158, 1607).

**3.** *Ад* обернути I *у* 4 *знач.* всѣхъ противникѡвъ наши*х* роспаленыи, а на насъ оберненыи стрѣлы гасилъ и ѡ*т*ворочал (Каліст, II, 222б).

**4.** *Ад* обернути I *у* 6 *знач.* тѣло мое, ижъ отъ земли есть взято, въ землю будетъ обернено (АВК, VIII, 472, 1594); але

